# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 28 (42) 10—16 верасьня 1993 года Кошт 10 рублёў





## ПАД АПЕКАЙ МІЛІЦЫІ

Хоць і забараніў гарадзенскі гарвыканкам ініцыятыўнай групе правесьці сьвяточныя мерапрыемствы, прысьвечаныя ўгодкам вялікай перамогі вояў ВКЛ над Масковіяй у 1514 годзе пад Воршай, але сьвята адбылося.

Рэй вёў старшыня гарадзенскай рады БНФ спадар Кастусь Жынь. Па яго каманьдзе шыхт па Савецкай вуліцы рушыў пад дзяржаўнымі сымболямі. Шэсьце суправаджалася сьпевамі ў выкананьні хору «Паходня». Затым у старым парку ля брацкай магілы загінуўшым у ВАВ шэсьце прывіталі народны дэпутат РБ М. Маркевіч, сябра БСДГ М. Патрэба, прафэсар А. Пяткевіч.

Пасьля вітальных слоў адбылося ўрачыстае прыняцьце прысягі, якую ўзялі прыкладна 40 чалавек, сярод якіх 2 жанчыны. Далей шыхт рушыў з запаленымі паходнямі да Каложскай гары, дзе ўшанаваў хвілінай маўчаньня гэрояў Грунвальдзкай перамогі.

Як ня дзіва, але калёну дэманстрантаў на працягу ўсіх мэрапрыемстваў апякала мноства міліцыянтаў на машынах ДАІ. Вось і дай веры, што ў дзяржаве дэфіцыт паліва.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

**ВІЛЬНЯ.** 1—2 верасьня сталіцу Летувы наведаў міністр замежных справаў Беларусі П. Краўчанка. Ён прадставіў часовага паверанага ў справах РБ у Летуве У. Шчаснага. Спадар Шчасны разам з паслом Летувы на Беларусі сп. Аўгулісам наведаў рэдакцыю газэты «Наша Ніва».

Пасольства Беларусі праз некаторы час адчыніцца на вул. Наваградзкай.

**Р. МЕНДЖЫБОЎСКІ.**

## Мытны падатак дойчмаркамі

Газэта «Пагоня» ўжо паведамляла, што на лётнае поле аэрадрому Абухава штодзённа прызямляюцца па некалькі пасажырскіх самалётаў нямецкай авіякампаніі «Лёфтганза». Як стала вядома з кампэтэнтных крыніц, нямецкія авіятары пераважна лётаюць маршрутам Дзюсэльдорф — Караганда й Бон — Навасібірск, робячы ў Горадні дазапраўку палівам. Беларускія мытнікі й памежныя службы вядуць мытны кантроль, экспэртызу й удакладненьне ўсёй дакумэнтацыі.

Дарэчы, з пасажыраў, якія ляцяць у вышэйназваныя гарады Расеі й Казахстану, нашы мытнікі бяруць транзітны падатак 50 дойчмарак за некалькі гадзін знаходжаньня ў зале адпачынку аэрапорту.

**Г. У.**




## Вымушаная пасадка

Першае, што пачулі лётчыкі французкага спартыўнага самалёту з Тулузы, я[illegible] зрабілі вымушаную пасадку [illegible]а лётным полі аэрапорту Абухава, ад акружыўшых іх памежнікаў, мытнікаў і службоўцаў аэрапорту — плаціце штраф памерам 35 тысяч рублёў. Як стала вядома, пасьля перамоў і ўдакладненьня прычыны пасадкі, наш бок адмяніў сваё рашэньне, але не дазволіў скарыстаць яшчэ раз сваю ўзьлётна-пасадачную паласу. Таму, каб самалёту апынуцца на вызначаным месцы — у стары[illegible]радзенскім аэрапорце — гарадзенскаму камэрсанту Г. С., які, дарэчы, набыў гэты самалёт з мэтай заснаваньня ў Горадні прыватнага авіяцыйнага клюбу, давялося транспартаваць сваю пакупку аж да Караліно на аўтапрычэпе.

**Г. У.**



## Папа Рымскі быў у Вільні

Сьпеўнае поле, на якім адбылася сустрэча паломнікаў з Папам Рымскім Янам Паўлам II было перапоўнена віленчукамі і гасьцямі з 6 гадзін раніцы.

Дэлегацыю гарадзенскага хору «Паходня» хоць і не сустрэлі, як было дамоўлена раней, але пасьля ўдакладненьня прапусьцілі на імшу, якую служыў Ян Павал II для ўсіх разам. У час набажэнства высокі госьць зьвяртаўся да прысутных на беларускай, польскай, летувіскай і расейскай мовах. На гэтых мовах Папа Рымскі заклікаў да міру, ўзаемапаразуменьня, павагі і любові да Бога.

Пасьля агульнай службы ў касьцёлах летувіскай сталіцы адбыліся набажэнствы ў гонар яго Прэасьвяшчэнства. Віленскія беларусы разам з гарадзенскім хорам адслужылі сваю беларускую імшу ў касьцёле Сьвятога Мікалая. Вёў службу гарадзенскі сьвятар айцец Анатоль.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## Наш завод выручае блізкі Усход

Страціўшы попыт на сваю прадукцыю ў дзяржавах СНД, на гарадзенскім заводзе «Радыёпрыбор» ня ўпалі ў роспач. Тут за кароткі тэрмін адшукалі рынкі збыту сваёй прадукцыі ў краінах блізкага Усходу. Так, вядомы транзістарны радыёпрыёмнік «Верас» ахвотна купляюць гандлёвыя фірмы Сірыі, Саудаўскай Аравіі, Іярданіі.

Дарэчы, разьлічваюцца замежныя пакупнікі са сваімі беларускімі партнёрамі пераважна бартэрнымі пастаўкамі запчастак і навейшым абсталяваньнем.

## Адчыніўся рэстаран «Беларусь»

Днямі пасьля чатырохгадовага рамонту пачаў працаваць гарадзенскі рэстаран «Беларусь». На час прэзэнтацыі адміністрацыя рэстарану падрыхтавала цікавую забаўляльную праграму й выдатную старабеларускую кухню.

Двум самым першым наведвальнікам былі ўручаны падарункі, уладальнікамі шампанскага з цукеркамі сталі бізнэсмэн Сяржук Ш. і настаўніца Натальля З.

**Г. У.**

## «Працаваць на сваёй зямлі й гаварыць сваёй мовай»

Пад такім лёзунгам выставіў сваю выбарчую праграму Беларускі Саюз у Польшчы. У эканамічнай сфэры перавага аддаецца абароне эканамічных інтарэсаў беларускай меншасьці ў вёсках і гарадах, асабліва — беластоцкай сельскай гаспадаркі перад банкрутствам і занядбаньнем. У сфэры культурна-асьветнай і рэлігійнай, паводле праграмы, не павінна чыніцца аніякіх перашкодаў для самарэалізацыі беларускай нацыянальнай меншасьці.

Выбарчы камітэт Управы Беларускага Саюза зарэгістраваў у Беластоцкай ваяводзкай выбарчай камісіі свой сьпіс № 25 кандыдатаў у Сойм РП. У яго ліку дзесяць асобаў, усе мужчыны: Антон Міранові́ч, Ян Сычэўскі, Мікола Бушко, Мікола Ваўранюк, Мікола Валіцкі, Сяргей Лукашук, Пятро Прышчэпка, Пятро Крук, Сяргей Шчыгал, Пятро Багроўскі. Усе яны народжаныя на Беласточчыне, узростам ад 34 да 56 год. Сярод іх ёсьць вясковыя гаспадары, бізнэсмэны, настаўнікі, навукоўцы, інжынэры.

У мінулыя выбары беларусы ня мелі посьпеху. Сярод галоўных прычын гэтага была разьяднанасьць: адныя лічылі сябе палешукамі, іншыя русінамі, тутэйшымі, праўдападобна, яцьвягамі да палякаў або ўкраінцаў, тэрыцця вызначаліся толькі паводле рэлігіі. Ня дзіва, што ці не галоўным шанцам для беларускіх палітыкаў сёлета будзе менавіта апірышча на праваслаўную царкву.

Выбары адбудуцца 19 верасьня. Хацелася б, канешне, каб нашыя беларусы ў Польшчы гэтым разам выступілі больш удала й правялі ў Сойм аднаго з дзесяці сваіх кандыдатаў.

**Р. МЕНДЖЫБОЎСКІ.**





# Чырвоныя памешчыкі хлусяць

Ужо нават былы наш прэзідэнт М. С. Гарбачоў, які да апошняга трымаўся за сацыялістычны выбар, прызнае, што рэформы яму патрэбна было распачынаць з сельскай гаспадаркі. Дайшло, хоць і са спазьненьнем, што ведаюць ва ўсім сьвеце, у чым многія краіны пераканаліся на ўласным вопыце.

«Патрабуюць разагнаць калгасы,— лямантуюць «чырвоныя памешчыкі»,— а ўсіх сялян хочуць зрабіць парабкамі ў фэрмэраў». Хто патрабуе — аб гэтым маўчаць. Бо няма ў нас на Беларусі экстрэмістаў-самазабойцаў, якія не разумелі б, што адначасны прымусовы разгон калгасаў прывядзе хіба да голаду.

Другі «козыр» прыхільнікаў калектыўнай уласнасьці на зямлю — ня хочуць нашы сяляне станавіцца фэрмэрамі. А каб выглядаў ён больш пераканаўча, абапіраюцца на сацыялягічныя апытаньні. Згодна з імі, маўляў, вельмі мізэрны працэнт людзей дасьпеў да гатоўнасьці ўзяць зямлю ва ўласнасьць.

Ня вельмі верыцца ў аб 'ектыўнасьць такіх апытаньняў, бо вынікі, перш за ўсё, залежаць ад мэты тых, хто іх праводзіў. А калі сапраўды ў нас так мала патэнцыяльных «аднаасобнікаў», то ўсё роўна хлусяць тыя, хто казырае гэтым фактам.

У сувязі з гэтым не магу не ўзгадаць эпізод са свайго школьнага дзяцінства. Купіла аднойчы мая маці два дзесяткі інкубатарскіх куранят. Высыпала іх на падлогу кухні, палюбавалася, а потым схамянулася:

— Дык Марцін жа іх усіх пажрэ! Што рабіць?

Марцін — наш вельмі драпежны сібірскі кот, які ўжо й за дарослымі суседзкімі куранятамі цікаваў. Але, ведаючы тое-сёе аб умоўных рэфлексах, я супакоіў маці: не зачэпіць ён кураня. Запрасіў на кухню Марціна й левай рукой працягнуў яму цёплы пушысты камочак. Той, ашчэрыўшыся, кінуўся на ласунак. Але, атрымаўшы моцную пстрычку па носе, падаўся назад. Зноў прапаноўваю кураня і зноў — па носе. Пасьля пятай спробы паласавацца Марцін пачаў... уцякаць ад кураняці. І запомніў навуку на ўсё жыцьцё. Бачылі б вы, як пазьней былы драпежнік саступаў месца ля бляшанкі з малаком любому нахабнаму кураняці. Вэгэтарыянец — дый годзе.

Несумненна, пра ўмоўныя рэфлексы ведалі й тыя, хто з нашага народа сем дзесяцігоддзяў мэтадычна й бязьлітасна выбіваў нават думкі аб уласнай зямлі. А цяпер вось ужо цэлых пяць гадоў яшчэ дражняцца з селянінам: бяры зямлю. Калі ж паверыць і адважыцца хто — па носе. Хто-ніхто ўсё ж, нягледзячы на пстрычкі, з неверагоднымі цяжкасьцямі стаў фэрмэрам. Ды й тым не пазайздросьціш.

Атрымліваецца нешта накшталт таго, як старэйшыя ў дзяцінстве вучылі нас плаваць — папросту кідалі з берага на глыбіню. Як выбірацца з яе — твой клопат.

Але й гэтая жорсткасьць нашых «настаўнікаў» падаецца нявіннай забавай. Бо нас, калі добра наглытаемся вады, усё ж выцягвалі. Савецкія ж фэрмэры ў вір самастойнага гаспадараньня трапляюць зблытанымі па руках і нагах. І з поўным усьведамленьнем таго, што на дапамогу ніхто не прыйдзе. Наадварот — утопяць пры першым зручным выпадку.

Летась прагрымеў на ўсю Беларусь фэрмэр Муравіцкі з Салігорскага раёну, які чамусьці не выкапаў адзін з дванаццаці гэктараў сваёй бульбы. Райвыканкам строга папярэдзіў яго: калі падобнае паўторыцца, разьвітаешся з зямлёю. Сёлета строга наказалі яшчэ некалькім фэрмэрам.

Ня ведаю, ці цікавіліся раённыя начальнікі, чаму небарака Муравіцкі не выкапаў той злашчасны гэктар. Можа, не было чаго капаць з-за неверагодна засушлівага лета? Можа, сілаў не ставала? Але прынцыповасьць да яго праявілі ўнікальную. І не выпадковую. Асабліва калі ўлічыць, што кожны год сотні салігорцаў на дармаўшчыну назапашваюцца на зіму капустай з убраных толькі з большага прыгарадных калгасных палеткаў. Што летась з бурачнай плантацыі ля Пагоста тыя, хто не ленаваўся, машынамі звозілі салодкія карэньні. І гэта пасьля ўборкі, у лістападзе. На самагонку, напэўна. Што па ўсёй Беларусі бульбы ў зямлі на калгасных палетках застаецца да паловы ці нават больш. Гэта зразумела, прывычна, даравальна, усім вядома й апраўдваецца непераадольнымі цяжкасьцямі. Адказнасьці, натуральна, ніхто не нясе. Фэрмэра, нават за дробязныя хібы — адразу пад пазногаць.

Таго самага, каму не даюць крэдытаў, зямлі ва ўласнасьць, тэхнікі — нічога, каб мог стаць на ногі. Не даюць сьвядома, наўмысна. Каб адбіць ахвоту да зямлі ў яго й тых, хто бачыць ягоныя пакуты. А яшчэ — каб мець падставы хлусьліва сцьвярджаць, што «фермеры страну не накормят», «наши люди отвергают частную собственность на землю».

Кажаце, мала ў нас фэрмэраў? Так. Але яны ёсьць, нягледзячы ні на што. І гэта — самы пераканаўчы доказ таго, якая невынішчальная ў нашага народа цяга да ўласнай зямлі. Яна ў шмат разоў мацнейшая, чым нават (прабачце за параўнаньне) прагнасьць памянёнага ката Марціна да кураціны. Памятаеце: каб адбіць ахвоту да яе, хапіла ўсяго пяці пстрычак...

Вывад са сказанага такі: якім бы нізкім ня быў працэнт жадаючых самастойна гаспадарыць на зямлі, ён даказвае адваротнае таму, што небезкарысьліва сцьвярджаюць прыхільнікі калгасаў са старшынёўскімі партфэлямі. Паспрабавалі б хаця праэкспэрымэнтаваць усім наяўным фэрмэрам і арандатарам (без ніякіх прывілеяў) даць людзкія магчымасьці — і праз пару гадоў аб 'ектыўная статыстыка, калі яна да таго часу зьявіцца, адзначыць выбуховы рост прыхільнікаў прыватнай уласнасьці на зямлю. Ды не зробіць ніхто падобнага экспэрымэнту, бо заканадаўцы нашы (тыя ж самыя «чырвоныя памешчыкі») усё разумеюць і так. А таму ня будуць секчы сук, на якім сядзяць.

**В. МУРЫЛЕЎ.**
**г. Салігорск.**

# Аб захаваньні грамадзкага адзінства

## Супольная заява

Эканамічны й палітычны крызіс, у якім апынулася Беларусь, відавочны: спыняюцца прадпрыемствы, вымушана не працуюць людзі. Кіраўніцтва краіны, выбранае й прызначанае ў часы СССР і панаваньня КПСС, аказалася няздольным праводзіць эканамічныя рэформы й кіраваць новаю незалежнаю дзяржавай. Стары здыскрэдытаваны рэжым стаў на шлях адмаўленьня ад нэйтралітэту, ад прагрэсіўных рэформаў, ад незалежнасьці Беларусі, на шлях супрацоўніцтва з рэакцыйнымі, камуністычнымі, імпэрскімі коламі Расеі. Гэтыя колы зацікаўлены ў тым, каб захаваць у Беларусі расейскія войскі, паласу супрацьпаветранай і супрацьракэтнай абароны Масквы, базы стратэгічных і тактычных ракэт — фактычна пакінуць Беларусь у стане краіны-заложніцы.

Сутнасьць змовы — у тым, каб, штучна стварыўшы эканамічныя цяжкасьці, прымусіць Беларусь уступіць у сістэму калектыўнай бясьпекі і ў вайсковы саюз з Расеяй, ліквідаваць нашу дзяржаўную незалежнасьць. Выкарыстоўваецца паліўна-энэргэтычны шантаж і ствараецца штучны дэфіцыт нафты; адбываецца грубы націск на беларускую фінансава-крэдытную сістэму; арганізуюцца розныя палітычныя акцыі.

У Белару[illegible] колі не было міжнацыянальнай варажнечы, і шчасьце наша у тым, што яе няма й цяпер, у няпростыя крызісныя часы. Але пракамуністычныя, праімпэрскія сілы ня трацяць надзеі справакаваць у Беларусі сутычкі на нацыянальна-моўнай глебе, унесьці ў краіну нестабільна[illegible] і стварыць, такім чынам, падставы д[illegible]амацаваньня таталітарнага імпэрскага рэжыму.

Разьдзімаецца надуманая праблема дзяржаўнага двухмоўя. Чарговаю спробаю распаліць напружанасьць стала задума правядзеньня «кангрэсу народаў Беларусі», з якой выступілі арганізацыі камуністычнага ды імпэрскага кірунку, аб 'яднаныя ў «Народное движение Белоруссии». Сама назва меркаванага мерапрыемства выклікала абурэньне сваёй правакацыйнасьцю. Бо народ Беларусі — адзіны, ён ня дзеліцца па этнічна-моўных прыкметах; народ Беларусі — гэта ўсе мы разам: і беларусы, і прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў. Нездарма, атрымаўшы адмову з боку арганізацыі нацыянальных меншасьцяў, ініцыятары мерапрыемства вым[illegible]ны былі ўнесьці зьмену ў яго назву (к[illegible]эс не «народаў», а «народа Беларусі»).

Адсутнасьць паўнамоцнага прадстаўніцтва ператварае гэтую акцыю ў палітычны фарс. Арганізатары «кангрэсу» нікога, акрамя саміх сябе, не прадстаўляюць, аднак зьбіраюцца прыняць на ім патрабаваньне аб скас[illegible]ьні незалежнасьці нашае краіны [illegible] канфэдэрацыю з Расеяй. Але ж сапраўдную думку народу аб будучыні нашай краіны ўжо выказаў прадстаўнічы Зьезд беларусаў сьвету, што нядаўна адбыўся ў Менску.

Уступіўшы ў канфэдэрацыю з Расеяй, Беларусь непазьбежна будзе зацягнута ў бясконцыя й крывавыя войны. Але новыя аўганістаны не патрэбныя ніводнаму жыхару Беларусі.

Мы пярэчым спробам зьнішчыць незалежнасьць нашай краіны й перакрэсьліць надзею на лепшае ў нашага народа. Мы патрабуем спыніць правакацыйныя намаганьні перасварыць людзей Беларусі.

Мы выступаем за незалежную Беларусь, якая мае добрыя дачыненьні з усімі суседнімі краінамі й супрацоўнічае з імі на двухбаковай аснове. Мы выступаем за Беларусь, дзе будуць гарантаваныя правы чалавека кожнай нацыянальнасьці.

*Ад Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» — Зянон Пазьняк.*
*Ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады — Алег Трусаў.*
*Ад Згуртаваньня беларускіх татар «Аль-Кітаб» — Барыс Шабановіч.*
*Ад Саюзу Палякаў Беларусі — Тадэвуш Гавін.*
*Ад Свабоднага прафсаюзу Беларусі — Генадзь Быкаў.*
*Ад Асацыяцыі ўкраінцаў Беларусі «Ватра» — Багдан Міхайлюк.*
*Ад Беларускай сялянскай партыі — Іван Нікітчанка.*
*Ад Аб 'яднаньня беларускіх яўрэйскіх арганізацыяў і суполак — Леанід Левін.*
*Ад Таварыства немцаў Беларусі «Адраджэньне» (Беларускага цэнтру нямецкай культуры) — Аляксандр Майснэр.*
*Аб Беларуска-Літоўскага Задзіночаньня — Ян Войніч.*
*Ад Жаночага хрысьціянска-дэмакратычнага руху Беларусі — Людміла Пеціна.*
*Ад Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» — Ганна Сурмач.*
*Ад Аб 'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі — Станіслаў Гусак.*
*Ад Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі — Алесь Апрышка.*

**26 жніўня 1993 г.**
**г. Менск.**

# Лісты да Бутраса Галі

**Абставіны рэдка бываюць спрыяльнымі.**
**Дзюла Іийеш.**

### 1. «Пагранцы»

Палеткі на ўзгорках, блакіт, лес, рака. Усе з сабакамі, выгульваеце ката, прычым, на павадку, адныя вы. Выгляд у яго надзвычай годны, а вочы — разумныя, як ня ў кожнага чалавека. Вы яго называеце «котсапіенс».

Надвор 'е вельмі няпэўнае: аблокі, сонца, парывісты вецер, «цяжарныя» вільгацьцю хмары, імжака, дождж. Калі ўзыходзіш на пагорак, бачыш адно ўзаранаю цёмную зямлю ды бруднае неба, узгадваецца карціна Фэрдынанда Рушчыца, якой ніхто з вас ня бачыў у арыгінале.

Часам вашага ката, нібы таго сабаку, як панясе па жоўтай колкай пожні! Ажно пяты мільгацяць. Ледзьве пасьпяваеш сьледам шырокім крокам бегма. Гэта ў вас называецца «беларускія пагранцы пры ахове сьвяшчэнных таджыцкіх рубяжоў».

### 2. Рэцыдыў юдафобіі

А вось Бядуля, ён жа — Самуіл Плаўнік? А ці шчыра ў яго гэта было, а ці ня з пэўнай сваёй мэтай ён унядрыўся ў нашу беларускую літаратуру?... Як пачуеш такое, дык і сам задумаешся: а, можа, й напраўду ня ўсё так проста? Ён, здаецца, недзе ў Міры вучыўся ў ішыбоце або ў гэшэфце, ці як там іхнія школкі называліся...

Раней іх у душы недалюблівалі, самі ня ведаючы завошта. Ну, відаць за тое ж, за што й пацыфістаў або Папу Рымскага. Палітыка партыі была такая. Недалюблівалі таксама й тых, хто размаўляў па-беларуску: пісьмень-нікі, лепшымі за іншых хочуць здавацца. Цяпер тым нярэдка зайздросьцяць, бо яны могуць, а мы — не, апынуцца дзесь у абяцаным мейсцы — ішыбоце, кнэсэце або нават у кібуцы.

Міжволі пачынаеш у думках аналізаваць прозьвішчы. Калі на «-ін» сканчаецца, дык значыцца — іхні? А вось беларускія вайскоўцы маёр Маркоўкін ды палкоўнік Картошкін, пілот сталічнага авіяатраду Кукушкін, шафёр гарадзкога аўтобуса Ложкін — яны што — таксама... Прозьвішчы даволі карыкатурныя. Але кібуц ім усё ж ня сьвеціць.

### 3. Брошчы са страчаным тэрмінам

Два гады жывём, лічы, у сваёй дзяржаве. Здаецца, нарэшце крыху змалела наша нянавісьць, бо паслабла нутраная напруга, страх. Але наша нянавісьць адрозная ад іхняй. Мы ненавідзелі іх з-за ганебнага цяжару быць парыямі на сваёй зямлі, бо спрабавалі ня здрадзіць ёй. Мурынамі з белай скурай зрабілі нас яны, якія прадавалі Яе нават не за юдавы срэбнікі, за нішто, дзеля сваёй рабскай прыемнасьці. Наша нянавісьць была нядобрай, але вымушанай, таму бязкрыўдна-абарончай.

Яны ненавідзелі й ненавідзяць інакш. Раней — ад моцы, цяпер — ад бязсільля. Два гады яны сплываюць бы атрутай сваёй нямоглай нянавісьцю. Спадзяваньне ў тым, што яны таксама крыху стаміліся ненавідзець. Нявера ж у тым, што калі яны перастануць ненавідзець, дык перастануць быць самі сабой, што, думаецца, ужо немагчыма.

Наша з імі адрознасьць: мы ня можам жыць нармальна ў бязконцых напружаньні ды нянавісьці. Яны ня могуць жыць без нянавісьці, гінуць без яе. Мы — рэдкая рыба стронга, якая можа існаваць толькі ў чыстай вадзе.

Адзін дасьведчаны чалавек з усьмешкай заспакоіў мяне: марныя іхнія спадзяваньні. Дзе аднойчы адчынілася амэрыканскае пасольства, яно застанецца назаўсёды. А значыцца, усе яны памруць ад уласнай нянавісьці, калі не захочуць жыць, як усе нармальныя людзі ва ўсім сьвеце. Ягоныя б словы ды Богу — у вушы.

Мы хочам жыць як людзі (я ня маю на ўвазе тут ступень заможнасьці), а ня члены ячэйкі, вінцікі, шасьцярэнькі, працоўныя масы, «насельніцтва» краіны, сацыялістычнага ЛАГЕРА й г. д. Але савецкі вірус шашалем знутры зьнішчае кволых надалей. Некаторыя з нас, на вялікі





## Ноччу служба даведак маўчыць

Вельмі часта пасьля 24 гадзін на Гарадзенскім чыгуначным вакзале можна пачуць, як людзі пытаюцца адзін аднаго, на якую каляю прыбывае той ці іншы цягнік. Убачыўшы сьвятло дызэля, жадаючыя ехаць сьпяшаюцца на пэрон, несучы ў руках цяжкія валізкі, кайстры. Больш дужыя расьпіхваюць натоўп, спрабуючы заняць выгодныя месцы.

Мітусяцца людзі, крычаць, лаюцца, а служба інфармацыі вакзалу маўчыць. Маўляў, разьбярэцеся самі. Дзякуючы такой «паслузе» пасажыры губляюць шмат часу, сілаў, энэргіі, нэрваў, а, здараецца нават, сеўшы ня ў свой цягнік, праяжджаюць некалькі прыпынкаў, пакуль разьбяруцца, што памыліліся.

## Аднаўляюцца старажытныя касьцёлы й будуюцца новыя

Каб захаваць старажытныя касьцёлы як духоўную й культурную спадчыну беларускага народа, кіраўніцтва Гарадзенска-каталіцкай эпархіі падрыхтавала зварот да ўладаў з просьбай аб дапамозе сродкамі ў аднаўленьні ў Іўі касьцёла й кляштара (помніка архітэктуры першай паловы XVIII стагоддзя). Свае высілкі Гарадзенская каталіцкая эпархія накіроўвае ня толькі на аднаўленьне даўніны, але й робіць захады па стварэньню новых прыходаў. Бадай збудаваны касьцёл у вёсцы Масты Правыя Мастоўскага раёну, а таксама створаны прыход у вёсцы Азёры. Плянуецца з цягам часу збудаваць новыя касьцёлы ў мікрараёнах Вішнявец і Дзевятоўка ў Горадні.

*Дарэчы, на сёньняшні дзень на Гарадзеншчыне стала працуе 175 касьцёлаў, у якіх вядуць службу 75 ксяндзоў.*

## На патрэбы сэмінарыі

Кіраўніцтвам Гарадзенскай каталіцкай эпархіі прыкладаюцца намаганьні на тое, каб улады Горадні перадалі езуіцкі калегіюм на патрэбы духоўнай сэмінарыі. Робіцца гэта таму, што сэмінарыя адчувае вялікі недахоп памяшканьняў для сэмінарыстаў, якіх на сёньняшні дзень навучаецца тут 85 чалавек. Сёлета пасьпяхова здалі іспыты яшчэ 26 жадаючых атрымаць духоўную адукацыю.

**Г. У.**

# «Увожаемые товарищи...»

Першага верасьня... Дзень ведаў. Пачатак навучальнага году. У школах — сьвяточныя лінейкі, прамовы, віншаваньні. Ва Уселюбскай СШ, што на Наваградчыне, таксама адбылося падобнае мерапрыемства. Але ўражаньні засталіся самыя кепскія. Быццам бы не ў сувэрэннай Беларусі знаходзіцца школа, а ў «Северо-Западном крае».

Яшчэ перад пачаткам лінейкі з прайгравальніка некалькі разоў прагучала адна толькі песьня: «... В этот погожий сентябрьский денёк...». Нібы ва ўсёй школе не знайшлося ў фанатэцы аніводнай беларускай песьні, хоць бы «Спадчына» ці «Мой родны кут». Але каб сваё, беларускае. Лінейку адкрыла прамовай дырэктар школы Г. М. Анцух, якая пачала казаць словамі «Увожаемые товарищи...», і размаўляла выключна на расейскай мове. Хоць сама яна з вёскі, вучылася ў беларускай школцы й мову нашую нядрэнна ведае. На чужой мове выступаў і былы завуч школы У. С. Стома.

Уселюбская школа — беларуская, а вось адміністрацыя школы, выходзіць,— сьвядомыя «расейцы». Узьнікае пытаньне — якое нацыянальнае й патрыятычнае выхаваньне атрымаюць вучні пад кіраўніцтвам такой адміністрацыі? Наогул, прамовы дырэктрысы, завуча й настаўнікаў былі поўнасьцю «нэйтральнымі», ня дай Бог, хоць словам згадаць Беларусь. У нядаўнім мінулым пад савецкі гімн ўздымалі чырвоны сьцяг. Цяпер стрыжань для сьцяга самотна тырчыць ля школы. Бел-чырвона-белы «товарищи» не сьпяшаюцца падымаць. Хіба чакаюць, што яшчэ вернецца мінулы рэжым.

На лінейцы прысутнічалі й выступалі госьці: старшыня мясцовага калгасу й старшыня Уселюбскага сельсавету. Свае прамовы яны таксама казалі па-расейску. Ёсьць добрая прымаўка: рыба гніе з галавы. Гэта значыць: ад начальства йдзе ўсё добрае ці кепскае. Вось такія сярэднія начальнікі — завучы, дырэктары, старшыні — і працягваюць палітыку русіфікацыі, прыкладаюць усе намаганьні, каб народ не загаварыў на роднай мове. Ня дзіва, што менавіта над Уселюбскім сельсаветам ці не адным з апошніх у раёне залунаў наш сьцяг.

Праўда, настаўнікі выступалі на роднай мове. Але ці шмат яны могуць зрабіць для Беларусі пад кіраўніцтвам кансэрватыўнай адміністрацыі школы?

Самым дзікім і агідным быў так званы літмантаж: вясковых беларускіх дзетак прымусілі чытаць «стишки» на чужынскай мове. Як быццам беларускія паэты не пісалі вершаў пра школу. Вось так і «насаждают» дзецям чужое, нянаскае, адбіраючы ў іх нашу гісторыю, мову, культуру.

Аднак былі віншаваньні, кветкі, шчасьлівыя ўсьмешкі. Пачаўся чарговы школьны год. Для ўсіх прыемным і хвалюючым быў першы званок: адзінаццацікласьнік Мікола Пісар з крошкай-першакласьніцай на руках абыйшоў строй вучняў, звонячы ў прыгожы званочак. На гэтым мерапрыемства й скончылася.

А ўсё ж сьвята не атрымалася. Адэпты «Северо-Западного края» з маўклівай згоды большасьці ў парлямэньце працягваюць русіфікацыю нават у беларускіх школках. І адчуваюць сябе выдатна. Што ім праграма нацыянальнага выхаваньня, што ім Закон аб мовах! Яны гнуць сваю лінію. Правільна робяць у краінах Балтыі: там начальніка, які ня ўмее ці не жадае размаўляць на дзяржаўнай мове, проста вызваляюць ад пасады. Вой, як далёка нам да балтаў.

**А. ПЯТКЕВІЧ,**
**в. Уселюб.**

# Мэліярацыя выйшла бокам

Да навадненьняў на Палесьсі прызвычаіліся, як і прызвычаіліся да таго, што з бяды палешукам давядзецца шукаць выйсьце саматужна. Не адчайваліся людзі, а спакойна ўзяліся ратаваць тое, што яшчэ засталося. Часам, стоячы па калена ў вадзе, дзядулі й бабулі сваімі старажытнымі прыладамі — сярпом і касой — зьбіралі збожжа. Пакуль улады выяўлялі страты й памер[illegible] паводкі, ўзгаднялі з вярхамі шлях[illegible]рашэньня, прасілі дапамогі з гораду, працавітыя старыя на сваіх плячох выканалі значны аб'ём працы.

Падасьпеўшая падмога з боку грамадзянскай абароны, працоўных калектываў, мясцовых заводаў значна палегчыла выпр[illegible]ваньні вяскоўцаў. Але радавацца [illegible]ло ранавата. Рэкі й рачулкі палескай поймы бурлілі, асабліва неўтаймаванай была Прыпяць з яе самым вялікім правабярэжным прытокам Гарыньню. За некалькі дзён яны затапілі амаль усю заходнюю частку Палесься. Найбольш пацярпелі ад гэтага прытоку вады Столінскі раён Берасьцейскай вобласьці й Жыткавіцкі раён на Гомельшчыне. Вада разбурыла ў гэтых раёнах дамбы, заліла мноства вёсак, палёў. Размыла дарогі, пазрывала масты.

Палешука не палохае пляскатаньне вады ў шыбы ўласнай хаты, бо ля ложка, дзе вады да калена, стаіць лодка, на якой без перашкод можна ў крытычны момант ад'ехаць на больш сухое месца. Жывёла й куры ўжо даўно ў небясьпечным месцы, ля хаты толькі качкі ды гусі. Пачуўшы словы спагады, мае землякі ўсьміхаюцца, а часам з шчырым палескім гумарам жартуюць — «от пійдэ вода зыстыля й вы підэтэ, а мы тут застанэмося». І як у пацьверджаньне сказанаму, на сьвяты і ў нядзелю ідуць на імшу ў царкву.

Разуменьне дарогі [illegible] Палесьсі вельмі ўмоўнае, хоць [illegible]ады мэліярацыі была ўзьведзена безьліч насыпных дарог. Але амаль кожную вясну паводка рабіла прамыіны шырынёй ў дзесяткі, а часам і ў сотні мэтраў, і зноўку пачыналася бездарожжа. Палёў у нашым краі было таксама небагата. Займа[illegible]ны пераважна самыя высокія ўз[illegible]ркі. Таму нават у час вялікіх навадненьняў не заліваліся вадой.

На жаль, тыя, хто захацеў убачыць Палесьсе другой жытніцай СССР, пачалі татальную асушку балотаў. Адгарадзілі ад рэк заліўныя лугі, балоты, пралажылі ў іх дрэнажныя сістэмы і ўтварылі палі, якія вельмі часта не давалі аніякага плёну, бо ў мокрыя гады на гэтых палетках усё выкісала, а ў сухія заўжды не наліваўся колас. Памятаю, колькі працы й высілкаў забіралі гэтыя савецкія палі ў маіх аднавяскоўцаў.

Сёлета, стаўшы ўласьнікамі зямлі, засеялі вяскоўцы збожжам і засадзілі бульбай свае надзелы на тых зьмэліяраваных палетках. Бульбянішчы зьгінулі пад вадой, а збажыну часткова змаглі ўратаваць. Людзі думаюць, адкуль чакаць дапамогі, бо дзяржава абяцае даць калгасам грошы, фураж і насеньне, а пра прыватныя падворкі ў пастановах ураду мовы амаль не вядзецца. Некаторыя, больш няўрымсьлівыя, зьбіраюцца самастойна ехаць у Расею ды на Украіну, каб здабыць там на насеньне пуд-два збожжа й бульбы.

Мой жа бацька мае іншую думку. Ён кажа, што аднавіць палеткі ўласьнікам павінна дзяржава, бо гэта па яе загаду дзяржаўныя дасьледчыя ўстановы распрацавалі праграму перабудовы жыцьця на Палесьсі, прыдумаўшы асушку. Калісьці, калі не было ахоўных дамбаў, узгадвае бацька, вада проста расьцякалася па балотах, ствараючы адметныя ўмовы існаваньня птушкам, рыбе, дапамагала вада й росту траваў. Мы прызвычаіліся да такіх умоў жыцьця. Былі выдатнымі рыбакамі, паляўнічымі, жывёлаводамі. Аднак з-за гідрамэліярацыі ўсё страцілі, а наўзамен атрымалі навадненьні.

Паводкі гэтай сёлета чакалі, надта ж насьцярожвала Прыпяць ўзімку неаднаразовым выхадам з берагоў. Аднак, як высьветлілася, гэта не ўстрывожыла мясцовыя ўлады. Канешне, пазьбегнуць бяды было складана, але падрыхтавацца й зьменшыць яе вынікі было магчыма.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

жаль, ненавідзяць таксама адзін аднаго, будучы на супольнай «барыкадзе». Справа, зрэшты, звычайная. Апроч нежаданьня спавядаць янычарства, у астатнім мы — самыя звычайныя людзі, якіх мала ў чым з'іначылі блізу два тысячагоддзі хрысьціянства.

Небясьпечна, што мы прыпадобіліся да іх, культывуючы нібы пакаёвыя кветкі або кактусы на падаконьні — адмоўныя пачуцьці у саміх сабе. Для іх страх з нянавісьцю — нутраное паліва, лепшае ад бялкоў з вугляводамі, салодкі наркотык. Мы і яны. А народ недзе збоку, на пэрыфэрыі. Як толькі сістэма паволі зрабілася менш жахлівай, народ ужо не адчуваў ані страху нават да якога-небудзь амэрыканскага імпэрыялізму, ані нянавісьці да душманаў, чырвоных кхмэраў або паўднёва-афрыканскіх расістаў. Адаптаваўся. Народу стала зручна жыць. Сёньня ён пачуўся няпэўна, захацеў назад у ціхае балота, дзе не было ніякага сувэрэнітэту, але затое паўсюдна прадавалася гарэлка па 3.62.

Але нельга, здаецца, увайсьці ў адную раку двойчы.

## 4. Костка

Памятаю пачуцьцё няёмкасьці, сораму, прыкрасьці ад ліста пісьменьнікаў у ЦК КПБ пра беларускую мову. Гады са тры ўжо мінула. Наіўная вера ў тое, што добры цар ня ведае аб тым, што чыніцца на ўскраінах... Ім было выдатна вядома, што тутака мясцовая КПСС бадай за галоўную сваю вымогу заўжды падсьвядома мела — вынішчэньне адусюль рэшткаў беларускага духу. І ёй яны румзалі ў камізэльку! Якая толькі што дадаткова забараніла наш сьцяг з Пагоняй, як дробная зладзейка, недарэчна ўпісаўшы пункт пра сымболі ў пастанову аб нейкіх там вырабах каапэратываў. Усё разам — суцэльны фарс! Канешне, спадзяваньне пакідае нас апошнім. Так, але яны нічога не спадзяваліся (хіба толькі якія недарэкі, калі ёсьць сярод іх), папросту, аднойчы ўпэцкаўшыся ў членства, лічылі сумленным гуляць у гэтую гульню да канца.

Памятаю выдатна тэлетрансьляцыю 26 лютага 90-га году з сэсіі БССР. Паважаны сп. Гілевіч пэрліў з трыбуны перад залай, якая мала не храпла, заплюшчыўшы вочы, пазяхала на поўную пашчу, нават калупалася ў носе, у лепшым разе тупа глядзела перад сабой. «Высокапаважаны сход». Шкада было прамоўцы. Ягоны выступ быў зусім не патрэбны, дакладней, меў адно рытуальную функцыю. Але ён гэтага, мабыць, ня ведаў, бо ня меў спадзяваньня на станоўчы вынік. Як і большасьць з нас, зрэшты. ЦК, аднак, напярэдадні ўжо вырашыла кінуць гэтую костку — Закон пра беларускую мову, які б ні да чаго й нікога не абавязваў.

Каб закон дзеіў, патрэбны дзьве абавязковыя ўмовы: мэханізмы выкананьня й пакараньня, а таксама загад (?) ворганам юстыцыі, каб яны пільнавалі, як ён выконваецца...

Тры гады гэтая мова — «Дзяржаўная». Закон для аматараў выконваюць адныя энтузіясты, сутыкаючыся на кожным кроку з цяжкасьцямі, перашкодамі, сабатажам і зьдзекам.

Цікава сабе паспрабаваць уявіць, як правілы дарожнага руху, прыкладам, выконваюць толькі адзінкі-энтузіясты.

ТБМ сёньня зьвяртаецца да ўсіх прыхільных: дапамагайце, спрыяйце! А мы ўсе й так выконваем. Марны голас. Накшталт успамянёнага ліста ў ЦК КПБ. У небеларускай дзяржаве беларуская мова ня можа быць дзяржаўнай! Хіба дзесь на Маўрыкіі. Гадоў праз 50. Калі тамака раптам пачнуць нараджацца выключна мурыны-беларусы...

## 5. Дзьве тысячы за «Беларускіх пісьменьнікаў»

Апошнім часам у Горадні зачыніліся дзьве кнігарні, дагэтуль не аднаўлены «Букініст». У астатніх беларускія аддзелы сьцяліся нібы чыгрынная скура. Па-першае, нарэшце сьпісалі ў макулатуру выданьні застойных часоў, у большасьці выпадкаў заслужана. А па-другое, адна па адной пачалі зьяўляцца кніжкі, напраўду цікавыя чытачам. Яны добра раскупляюцца, але тыражы маюць невялікія, паступаюць у малой колькасьці. У кнігарнях, апарыўшыся на гарачым, і на халоднае дзьмухаюць, амаль не заказваюць беларускую літаратуру.

Кніжка нарэшце зрабілася з ідэялягічнага фетыша таварам, беларуская таксама. Пры дэфіцыце тавару ягоны кошт падвышаецца, усё паводле рынкавых законаў. У кнігарні «Школьнік» паявілася шафка з беларускімі кніжкамі па камісійных цэнах. «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» Ю. Туронка — 600 рублёў (пачатковая цана — 50), «З. Пазьняк. Сапраўднае аблічча» — 300 (50), «Беларусы ў ЗША» В. Кіпеля — 900 (200), факсіміле «Пад сінім небам» Н. Арсеньневай — 300 (хіба каштавала капеек 50), «Споведзь» Л. Геніюш — 300 (50), «Крокі гісторыі» А. Калубовіча — 700 (60), «Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі» Я. Юхо — 700 (125), другі том «Беларускіх пісьменьнікаў» — 2000 (375).

Ня ведаю, ці пакуплялі гэтыя кніжкі, але праз некаторы час засталіся толькі дзьве з іх — В. Кіпеля і Ю. Туронка. Ведаю, аднак, дакладна, што адзін мой прыяцель набыў менавіта гэтыя дзьве кніжкі ў гэтым камісійным аддзеле.

**(Працяг на 4-й стар.).**





**Сем год мінула з таго часу, калі фактычна ўся зямля Беларусі была зацярушана чарнобыльскім попелам. Пра трагэдыю нашай дзяржавы напісана шмат. Але пра тое, як пакутавалі асобныя людзі, сказана мала. Сёньня газэта «Пагоня» друкуе аповяд былога галоўнага лекара ЦРБ г. п. Нароўля Віктара Жука.**

# Ліквідатар

Я вырас у вёсцы й таму, як кожны вясковы жыхар, любіў рана ўстаць, прайсьціся. У гэтую ноч таксама ня спалася, бо ноч была цёплая, зорная. На двары пачало ўжо шарэць. Устаўшы з ложку, падышоў да вакна, адхіліў фіранку й хацеў разпасьцежыць яго... Раптам усё навокал задрыжэла. Дрыгат узмацняўся з хуткасьцю маланкі, з вокнаў майго дому пасыпалася шкло, а мяне самога кінула на падлогу. Напачатку палічыў, што гэта землятрус, стаў чакаць наступнага штуршка, але яго чамусьці ўсё не было. Жонка й дзеці таксама ўсхапіліся з ложкаў, у вачох быў страх. Я ўзьняўся з падлогі, паспрабаваў супакоіць іх. Гаварыў нешта накшталт: ня бойцеся, мы жывем у аднапавярховым доме. Жонка была ў роспачы й сказала, што трэба хутчэй уцякаць, бо атрымаецца, як у Ашхабадзе ў пачатку пяцідзесятых. Каб паказаць сябе сьмелым, я падыйшоў да разьбітага вакна й паглядзеў ў яго. Ад таго, што ўбачыў, скаланулася сэрца: неба, якое нейкую хвіліну таму зіхацела зоркамі, было зацягнута смугой, якая шырылася й шырылася. Ніжэй смугі небакрай быў заліты чырвоным колерам, які зіхацеў жудаснымі адценьнямі.

Людзі павыбягалі з хатаў на вуліцу і ўзіраліся на незвычайнае відовішча. Апрануўшыся, мы ўсе таксама далучыліся да суседзяў. Каб лепей бачыць пажар, увесь натоўп рушыў за пасёлак. Ідучы разам з усімі, я чуў размовы, што пажар здарыўся, відаць, на Чарнобыльскай АЭС. Да самага відна фактычна ўся Нароўля глядзела на ўспышкі полымя, а з неба на непакрытыя галовы, плечы й рукі асядаў пыл. Толькі пры добрым сьвеце гэта было заўважана. Але многія бясьпечна жартавалі, маўляў, ёсьць нагода лішні раз схадзіць у лазьню.

Асабіста мяне жарты не кранaлі. Вярэдзіў душу рокат верталётаў у небе, якія ў незьлічонай колькасьці ляцелі й ляцелі ў бок месца аварыі. Я разумеў, што там людзі. А пра Хірасіму й Нагасакі ўспомнілася неяк неадразу. Калі сям ́я села сьнедаць, я пажадаў, каб малодшая дачка ня йшла да школы, але жонка запярэчыла: усе йдуць, а чаму наша ня пойдзе? Дачка пайшла на заняткі, а я, уключыўшы радыё, спадзяваўся пачуць хоць якое паведамленьне пра гэтую страшную ноч.

«Маяк», усесаюзнае й рэспубліканскае радыё ігралі вясёлыя мэлёдыі, перадавалі правааздачныя паведамленьні пра ход сяўбы, пра барэлі сібірскай нафты, а пра аварыю на АЭС нават ні было намёкаў.

Калі прыйшоў на працу, убачыў заклапочаныя й невясёлыя твары супрацоўнікаў. Яны, здаецца, так і чакалі ад мяне як ад галоўнага лекара нейкага паведамленьня. На пяціхвілінцы я сказаў, што йду ў райкам, а ўсе няхай прыступаюць да выкананьня сваіх абавязкаў.

У прыёмнай сакратарка па сакрэту паведаміла, што на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі страшэзная аварыя, што ёсьць ахвяры. Яшчэ яна дадала, што ў паветра выкінута вялікая колькасьць радыёактыўных рэчываў. На пытаньне, дзе сакратар, яна адказала, што той цішком на службовым легкавіку павёз сям ́ю да сваякоў пад Менск і таму абяцаў вярнуцца пад абед. Каб хоць штосьці высьветліць, я накіраваўся ў райвыканкам, але й там першыя асобы адсутнічалі. Патэлефанаваў свайму сябру ваеннаму камісару: той запэўніў, што нічога страшнага ня здарылася, бо ён мае тэлеграму з Міністэрства абароны Саюза.

Маўчаньне афіцыйных сродкаў інфармацыі павялічвала напружаньне й насьцярогу людзей. Народ пачаў хвалявацца, па райцэнтры пачалі хадзіць чуткі, што «галасы» перадавалі аб страшнай бядзе, якая спасьцігла беларускі й украінскі народы. Многія людзі пачалі адмаўляцца хадзіць на палявыя работы, ня пускалі дзяцей да школы. Так цягнулася амаль тыдзень. А потым прыйшоў Першамай, іх прымусова павялі на дэманстрацыю.

Прыкладна праз тыдзень пачалі зьяўляцца першыя афіцыйныя паведамленьні Масквы, але ўсё было ўжо вядома ад тых, каго бяз вопраткі, рэчаў вывезьлі з 30-кілямэтровай зоны, й разьмясьцілі ў піянэрскіх лагерах, гатэлях, дамах адпачынку. Ачумелыя ад нечаканай бяды людзі расказвалі, што калі ўзарваўся чацьвёрты блёк, яны ўсе бегалі глядзець на пажарышча, а потым у многіх, асабліва ў дзяцей, йшла носам і ротам кроў, на целе зьяўляліся балючыя пухіры, якія потым ператвараліся ў глыбокія язвы.

Мала-памалу страх пачаў перарастаць у роспач. Яшчэ ўчора тыя, хто бясьпечна хадзіў глядзець на пажар, былі цяпер разгубленыя й падаўленыя. Страціўшы надзею, што ўлады ім хоць чым-небудзь дапамогуць, яны пачалі ратавацца самі. На вакзалах, аўтастанцыях зьявіліся велізарныя натоўпы народу. Калі падыходзіў цягнік ці аўтобус, натоўп ашалела кідаўся да вагонаў, дзьвярэй аўтобусаў. Ніхто не зважаў на кабет з дзецьмі, старых. Усе сьпяшаліся пакінуць ці хоць далей ад ́ехаць ад страшнага месца. Хаты пусьцелі, як у час эпідэміі.

Паддалася агульнаму настрою й мая жонка. Яна штодзённа гаварыла, што трэба ратаваць дзяцей. Я параіў ёй ехаць да сваіх у Горадню. Праз тыдзень яна з дзевяцігадовай дачкою была ў стрыечнага брата. А яшчэ праз дзён дзесяць сакратар па ідэялёгіі райкама партыі запытаў у мяне, дзе мая сям ́я. Зразумеўшы яго запыт, я паспрабаваў патлумачыць, што жонка з дачкой паехалі пагасьціць нейкі час да сваякоў у Горадню. Сакратар узлаваўся, пачаў крычаць, што такія, як я, нішчаць аблічча партыі, і мне ня месца ў яе шэрагах. Зьбянтэжаны такой размовай, я спачатку разгубіўся, але, сьцяміўшы, куды гне справу галоўны ідэёлаг раёну, нагадаў яму, як той сам зьнік да абеду 26 красавіка першым. Сакратар разьюшыўся й сказаў, што я нясу паклёп, і што за гэта мяне трэба засадзіць.

Пасьля размовы з райкамаўцамі я зразумеў, што мне час пакідаць Нароўлю. Напісаў заяву на імя старшыні райвыканкаму з просьбай вызваліць мяне з пасады галоўнага лекара ЦРБ. За такі крок мяне прыкладна паўгады не вызвалялі з пасады. Страціўшы надзею, што маю заяву хоць калі-кольвечы задаволяць, я пагрузіў рэчы ў кантэйнэр і адправіў іх да свайго аднакурсьніка пад Менск. Застаўшыся, як кажуць, на лёгкую руку, сьледам за рэчамі цішком ад ́ехаў і сам.

Цяжкая бяда беларускага Палесься стала вядомай усім. Адных судзілі, другія засталіся без пакараньня. Але ў забруджаных раёнах засталося яшчэ шмат тых, хто не пажадаў пакідаць родныя мясьціны. ЦК КПСС пачаў акцыю, якая называлася новай кадравай палітыкай для пацярпеўшых раёнаў.

Перабраліся ў цёплыя вабласныя фатэлі нядаўнія нараўлянскія начальнікі. На іх месца прыйшлі новыя людзі. Я ў той час працаваў звычайным лекарам паблізу Менска. Балюча было слухаць пра тое, што на зямлі, на якой жыў, працаваў, дзе нарадзіліся дзеці, няма каму дапамагчы тым, хто пакутуе ад радыёнуклідаў. Пагаварылі з жонкай і вырашылі, што будзе лепей вярнуцца ў сваю хату. Ды й Нароўля ад эпіцэнтра выбуху знаходзіцца ўсё-ткі ў 45-ці кілямэтрах. Сабралі рэчы й паехалі дамоў.

Нароўля сустрэла нас запусьцелай, у вачох людзей чытаўся жах, роспач за сваё існаваньне, за нашчадкаў. Як ні працавала машына прапаганды, але абмануць людзей на гэты раз не ўдалося.

Адразу з аўтавакзалу адвёз сям ́ю дахаты. Сам жа накіраваўся да ўлады, каб знайсьці працу па спэцыяльнасьці. Мне прапанавалі работу ўчастковым тэрапэўтам.

Памятаю, аднойчы разам з групай лекараў санэпідэмстанцыі мы бралі аналіз вады ў вёсках, якія стаялі на поўдзень ад Нароўлі. Чаго мы там толькі не знайшлі пры лабараторным дасьледваньні! Але асабліва шмат у вадзе было цяжкіх элемэнтаў, такіх, як сьвінец, плутоній, стронцый. Гэтай вадой мясцовыя людзі карысталіся, пілі самі, паілі хатнюю жывёлу, палівалі агароды. Калі мы пацікавіліся, чаму вяскоўцы дагэтуль п ́юць забруджаную ваду, яны адказалі, што аб небясьпецы ніхто не папярэдзіў. Раней да вёскі прыяжджалі мэдыкі, бралі на пробу ваду з калодзежаў і ад ́яжджалі. Вось так прыходзілася жыць тым, хто па віне дзяржавы стаў ахвярай атамнай аварыі. На календары быў ужо 1990 год, а людзей нават ніхто не папярэдзіў аб тым, што вада ў вясковых студнях не прыдатная да піцьця.

1990 год стаў годам, калі народ пасапраўднаму адчуў тую небясьпеку, што звалілася на плечы палешукоў. У шпіталі раз-пораз сталі трапляць дарослыя й дзеці з цяжкімі дыягназамі: рак крыві, скуры, страўніка. На месцы хворым дапамагчы не было чым, іх накіроўвалі ў вабласныя, рэспубліканскія й саюзныя анкалягічныя цэнтры. Не знайшоўшы выратаваньня й там, бацькі, родныя хворых пачалі апэляваць да міжнароднай супольнасьці.

Не абмінула бяда й маю сям ́ю. Малодшая дачка пачала нечакана занемагаць. У рэспубліканскім анкалягічным цэнтры «Бараўляны» паставілі ёй дыягназ: злаякасная пухліна скуры твару. Каб выратаваць дзіця, прыйшлося кідаць працу. Бадай год я не працаваў, апякаў праапэрыраваную дачку. На шчасьце, усё абыйшлося добра. За гэты год былі скарыстаныя амаль усе сродкі, якія мы з жонкай сабралі за сумеснае жыцьцё.

# Лісты да Бутраса Галі

(Пачатак на 2—3-й стар.).

## 6. Газавая атака

Здарылася так, што аднойчы мы не атрымалі з Расеі газ. Неспадзянка! Спалохаліся, зажурыліся (з расейцамі кепскія жарты!). Але ня ўсе. Адзін калгасны брыгадзір з сябрукамі сьпехам выехаў у Маскву. Спаткаліся з цьвердалобымі, излили душу: Ну его на (...), этот сувиринитет, ребята... Вярнуліся, прэс-канфэрэнцыю адразу склікалі. Паглядзець, натуральнае ГКЧП — з выгляду. Пытаюцца: а хто вас упаўнаважыў? З гонарам: наш дэпутацкі мандат! Выратавальнікі нацыі, дый годзе!

Ня тое, хлопцы, ня тое. Прафэсіі, як казаў паэт; усякія патрэбны. Але няхай брыгадзір брыгадзірствуе, шавец боты шые й г. д. Інакш патрэбны высокі ўзровень асобы, які складаецца з адпаведнага выхаваньня, адукацыі, самаадукацыі. Патрэбны нацыянальная самасьвядомасьць з патрыятызмам, дзяржаўнае мысьленьне ў межах сусьветнай супольнасьці, а ня толькі брыгадзірскага ўчастка. Калі гэтага няма, дык ня варта лезьці в калашный ряд. А што мы маем? Дзяржаўніцтва-папрашайніцтва, калі, выпрашваючы скарыначку, сябе прыніжана дурачком называюць. Памятаем, вывучалі: Бьёт тебе челом князь Ивашка из Сызрани, раб твой і г. д. Схэма ранейшая: старшыня калгасу едзе ў раён — «выбіць», выклянчыць нешта, раёншчыкі — у вобласьці, вабласныя — у рэспубліку, а тыя — у Маскву. Паняцьці «сувэрэнітэту», «дзяржаўнасьці» застаюцца для іх словамі з тарабарскай мовы.

Што ж там з газам? Хутчэй за ўсё не заплацілі мы за яго. Калі купляеш, дык плаці. Але мы не купляем, мы — просім. Выйсьце? «Выратавальнікі» тлумачаць: папрасіць, пакаяўшыся, у Расеі крэдыт і на яго ўзяць у яе ж той газ. Спрытна, ці ж ня так?! Прыйсьці ў краму, узяць тамака бохан ды яшчэ й грошы за яго. Усё гэта — праявы сьвядомага імкненьня прадаць Беларусь у вечную кабалу Расеі.

«Выратавальнікі» дураць нам галаву, калі толькі, канешне, яны самі здольны разабрацца ў тым, што сакрэт усім вядомы: у Беларусі ня можа быць аніякіх праблемаў з расейскім газам! Для Расеі цяпер вельмі і вельмі важна працягнуць новы газавод у Нямеччыну. Паколькі ў паветры гэта зрабіць немагчыма, ён будзе наземны. З немцамі ўжо дамоўлена, з палякамі таксама. Палякі ня хочуць быць «Івашкамі». За тое, што газавод будзе пракладзены па польскай тэрыторыі, палякі атрымаюць права на пакупку чвэрці ўсяго газу, а іхняя дзяржава ўкладзе ў будаўніцтва толькі 15 працэнтаў ад усіх сродкаў. Чаго б тады той Ельцын езьдзіў нядаўна ў Варшаву? Тамтэйшыя журналісты яго спыталі: а якая пазіцыя Беларусі ў гэтай справе? Адказаць, канешне, не было чаго, а разам з тым адказ заўсёды гатовы: Ну, с Белоруссией мы договоримся без проблем...

## 7. Радыёфобія наадварот

Апавядае адзін дэпутат: на вуліцы спаткаў знаёмага бюракрата, як пачаў той лямантаваць, маўляў, вы не далі пабудаваць яшчэ на саюзныя грошы атамную станцыю ў Віцебскай вобласьці, у нас не давалі Капралактам будаваць, пралезьлі на гэтай хвалі ў ВС, а цяпер без энэргіі ды газу зусім загінем!

У іх заўсёды ўсё было проста: мільён чалавек туды, мільён сюды. Кашчунна было ў тыя гады карміць беларускі народ сапсаванымі радыёнуклідамі харчамі, забараняць праўду пра Чарнобыльскую катастрофу, амаль нічога не рабіць дзеля выратаваньня людзей з небясьпечных раёнаў, а пры гэтым яшчэ вылузацца, каб пасадзіць ужо на самой Беларусі Чарнобыльскую станцыю.

Па-першае, наўрад ці вышэй за падмуркі пасьпела б узьняцца Віцебская атамная, па-другое, гэта была б дзеля «эканоміі грошай» менавіта савецкая, а значыцца — Чарнобыльская АЭС. Замежныя спэцыялісты не адмаўляюць магчымасьці пабудовы АЭС на Беларусі, але. Папярэдне павінен тады адбыцца рэфэрэндум сярод жыхароў краіны па гэтым пытаньні. Свае адносіны павінны таксама выказаць суседнія краіны і экспэрты краін Эўрапэйскай Супольнасьці. Будаваць можна толькі бясьпечную станцыю, а гэта — 3 мільярды даляраў.

Ва ўсім сьвеце актыўна шукаюць новыя крыніцы энэргіі, адна з якіх — вадародная. Яшчэ 10 год назад беларускія навукоўцы мелі добрыя вынікі ў гэтым кірунку. Усё пагэніяльнаму проста: бярэм ваду,





цё. Дзяржава нам нічым не дапамагла.

Заставацца надалей у Нароўлі не было сэнсу. Я сабраў неабходныя дакумэнты й зьвярнуўся ў міністэрства аховы здароўя з просьбай дапамагчы пераехаць у іншае месца. Праз пэўны тэрмін мне прыйшоў ліст з паведамленьнем, што мая просьба задаволена й што мне неабходна прыехаць у Менск. У Менску маёй сям ʼі было выдадзена пасьведчаньне «ліквідатараў», даведка на ільготы, на атрыманьне жытла.

У Горадні пасяліўся ў роднай сястры й больш паўгады абіваў са сваімі паперамі парогі габінэтаў. З цяжкасьцю атрымаў дзьвюхпакаёвую кватэру на вул. Брыкеля.

Нярэдка ўспамінаю тую красавіцкую ноч, пажарышча й поўнае маўчаньне тых, хто ў першую чаргу павінен быў паклапаціцца пра людзей...

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## Опэра пра Максіма Багдановіча

Як стала вядома рэдакцыі «Пагоні», кампазітар А. Бандарэнка ўзяўся напісаць опэру, прысьвечаную гарадзенскаму пэрыяду жыцьця паэта М. Багдановіча. Маэстра плянуе скончыць свой музычны твор да вясны, а затым зрабіць яе прэзэнтацыю у вабласным драматычным тэатры.

## Расейцы з гуманітарнай дапамогай на Гарадзенскай мытні

Апошнім часам на Гарадзенскім чыгуначным вакзале ізноў бывае людна. Вольныя калісьці куты застаўлены агромністымі клункамі тых, хто жадае адʼехаць да Польшчы. Пераважная большасьць турыстаў з Расеі. Гэта й ня дзіўна — танныя расейскія тавары маюць попыт на торжышчах суседняй з намі краіны. На жаль, ў час мытнага кантролю высьвятляецца, што пераважная большасьць таго, што знаходзіцца ў кайстрах, раней трапіла ў Расейскую Фэдэрацыю як частка гуманітарнай дапамогі.

**Г. У.**



ВІЛЬНЯ

# КАНФЭСІІ

## Растаптаная памяць пра Сапегаў

У мястэчку Дзярэчын на Зэльвеншчыне нарэшце адчыніўся адрамантаваны касьцёл Ушэсьця. Некалькі гадоў нешматлікія вернікі-каталікі ды й ўвесь люд паспаліты зьбіралі ахвяраваньні, дамагаліся дапамогі ад калгаса, але з пачаткам інфляцыі рухаць справу далей сталася немагчымым. Дзякаваць Богу, знайшоўся ў няблізкай Францыі дбайны фундатар — спадар Кёрхнэр-Жукоўскі. У памяць памерлай жонкі, што была родам з Дзярэчына, ён дапамог адрэстаўраваць Божы Храм, які ад самае вайны выкарыстоўваўся хіба як склад для калійных угнаеньняў.

На фэст сышлося ды зьехалася безьліч людзтва з усіх навакольных вёсак. Акрым радасных каталікоў з хрысьціянскае салідарнасьці на сьвяце прысутнічала нямала праваслаўных і нават некалькі вуніятаў. Напярэдадні слонімскі ксёндз, пад чыю пратэкцыю пакуль падпадае «малы Вэрсаль» (гэтак называў Дзярэчын у сваіх мэмуарах ведамы польскі гісторык Леан Патоцкі), наведаў мясцовую школу і ў гаворцы з дзецьмі паслугоўваўся выключна беларускай мовай. У выніку чаго абнадзееная й супакоеная дзярэчынская суполка ТБМ (а тамака ёсьць і каталікі) прыйшла на сьвята без транспаранту «Мы хочам Бога ў роднай мове».

На адкрыцьці касьцёлу француз-фундатар прамаўляў па-францускy, высокія духоўныя асобы выладоўваліся па-польску, і толькі адзін слонімскі ксёндз пэрыядычна мовіў па-беларусу.

На француза, як на жывога мільянэра, народ глядзеў з удзячнасьцю й неўдаванай цікавасьцю — тыле грошай чалавек са сваёй кішэні выдаткаваў! У прамовах высокіх духоўных асобаў людзі разумелі пятае цераз дзесятае, а таму пераважна аглядаліся навокал, шукалі знаёмых, абмяркоўвалі падвешаныя на даўгіх ланцугох і па-майстэрску выкаваныя жырандолі. Слонімскага ксяндза слухалі ўважліва — а трэба сказаць, што пропаведзь па-беларуску сьвяты айцец гаворыць адмыслова.

Не абышлося й без канфузу. Старшыня местачковага касьцельнага камітэту тутэйшая цётка Ваця Бучынская нечакана пачала чытаць свой загадзя падрыхтаваны даклад па-польску, а стаяўшае поруч дзяўчо спраўна пераказвала малазразумелыя думкі цёткі Ваці на «агульнадаступнай» расейскай мове. Як на добры розум — ня шкодзіла б яшчэ раз перакласьці. Не, каб адразу гаварыць цётцы так, як яна звыкла размаўляе з аднавяскоўцамі заўсёды!

Пасьля афіцыйнае часткі нам удалося папрысутнічаць на сьвяточным застольлі ў гаспадара Р. — аднаго з арганізатараў аднаўленьня касьцёлу, «карэннага паляка». Пад час жывой зацікаўленай размовы выявілася, што для местачковай касьцельнай брацii беларускамоўны слонімскі ксёндз — пэрсона нон грата, бо замешаны, нібыта, у нейкіх грашовых махінацыях.

Калі прыйшла пара сьпяваць песьні, гаспадар праігнараваў прапанаваны гасьцямі-праваслаўнымі гімн «Магутны Божа», а натхнёна зацягнуў: «Хасбулат удалой, пуста сакля твоя...»

Застаецца пашкадаваць, што рэстаўратары-шабашнікі, не міргнуўшы вокам, паклалі ў касьцёле новую падлогу паверсе ўмураваных у ранейшую старых мармуровых плітаў з гэткім надпісам на лацінскай мове:

**Пану найлепшаму й найвялікшаму Казіміру Сапегу, паручніку войска Вялікага Княства Літоўскага, бацьку найлепшаму.**

**Язэпу Сапегу, дыяцэзіяльнаму кадʼютару віленскага біскупа, рэфэрэндарыю Вялікага Княства Літоўскага, роднаму дзядзьку.**

**Міхалу Сапегу, падканцлеру Вялікага Княства Літоўскага, сэрца якога тут ляжыць...**

**Мужам, найбольш аздобленым усялякімі цнотамі, кавалерам ордэна Белага Арла...**

**Князь Аляксандр Сапега, граф у Чарэі, Высокім, Дзярэчыне... ваявода полацкі, польны гэтман Вялікага Княства Літоўскага... паставіў гэты помнік у 1772 г.**

Верагодна, надмагільныя пліты былі перацягнутыя ў касьцёл (быў закладзены толькі на пачатку 20 ст.) з разбуранага кляштара дамініканцаў (17 ст.), які ў 1877 г. замаляваў для нашчадкаў вядомы мастак Напалеон Орда.

Як вам тупаецца, братове касьцельныя палякі, па надмагільных плітах кавалераў ордэна Белага Арла?

**Міхась СКОБЛА,**
**мястэчка Дзярэчын, жнівень, 1993 г.**

ператвараем яе ў вадарод і кісларод. Вадарод спальваем, зноўку атрымліваючы ваду плюс энэргію.

### 8. Жалезная лёгіка

Наша газэта, прычым заўважу, не царкоўная, бадай адзіная стала асьвятляе жыцьцё розных канфэсій, а не якой-небудзь адной. «Дзякуй» бы нам за гэта сказалі, ды прэмію, як гэта робіць, прыкладам, міліцыя. Ажно ўсё атрымліваецца наадварот. Тэлефануе ў рэдакцыю адзін вабласны чыноўнік ды пачынае пагражаць судом. Пачакайце, у чым рэч? Аказваецца, адзін наш матэрыял называўся «У апазіцыі да праваслаўя й каталіцызму». Загаловак сапраўды ня надта ўдалы, але апазіцыя яшчэ не канфрантацыя. Далей, нас абвінавачваюць, што «Добрая вестка», пра якую ішла мова, зарэгістравана не як рэлігійная, а як грамадзкая суполка. А мы тут прычым? Далей, мы прыхільна напісалі пра лютэранскую суполку, якая — а-я-яй! — дамагаецца кірхі, каб памясьціць у ёй «камэрцыйную структуру». Яшчэ не дамаглася, а ўжо ўсё вядома. Разьведка працуе! Пачакайце, гэта для вас усё жартачкі, а вось выснова функцыянэра вельмі пракурорская: «Пагоня» распальвае на Гарадзеншчыне рэлігійную канфрантацыю...

Пазяхнуць нават хочацца, бо ўсё наскрозь відно, аскомная гэта справа. Калі ў перабудову зьмянілася рэлігійная палітыка, ЦК КПБ гэтак зʼарыентавала свае адпаведныя органы: беларускую вунію не пушчаць, астатніх таксама асабліва не заахвочваць, а маскоўскай — зялёнае сьвятло. Мудрая палітыка ажыцьцяўляецца й сёньня. А вінаваты, канешне, журналісты, якія імкнуцца абараніць пакрыўджаных.

Або ўзяць іншы прыклад. Не пусьцілі патрыярхі Папу Рымскага ў Маскву на 1000-годдзе хросту, хоць ён і прасіўся. Мабыць, гэта не па-хрысьціянску, але «Пагоня» у гэтым не вінавата, паведамляць — задача прэсы. Паўтару яшчэ раз: журналісты, адрозна ад некаторых чыноўнікаў, лічаць сваім людзкім абавязкам абараняць кволага, а ня моцнага, таго, хто ў ласцы ва ўлады. І гэтак паўсюдна. Маскоўскія журналісты абураны новым законам, які абмяжоўвае ў Расеі дзейнасьць прапаведнікаў іншых канфэсій, робячы праваслаўе дзяржаўнай рэлігіяй. У нас дэ-факта тое ж самае. У сатэлітных дзяржаўках заўсёды так.

### 9. Мягказначныя парушальнікі

Адзін мой калега быў уражаны тым, што, працуючы ў расейскай газэце, я размаўляў па-беларуску. Паводле яго лёгікі супрацоўнікі беларускіх газэт павінны былі тады размаўляць па-беларуску. Жыцьцё гэта не пацьвярджала. Было гэта пяць гадоў таму. Сёньня ніхто яшчэ не пацярпеў за невыкананьне моўнага закону. А вось энтузіястаў у нас вельмі ня любяць.

Пачну здалёк. Вось, дапусьцім, гарэлка. Ёсьць аматары. Але калі яе на каве настояць або сьлівоўку зрабіць. Цымус! Гэтак і з вылегчанай беларускай мовай. Ёсьць аснова, але замала яе. Няма смаку, водару! Дзіва што, бо саўнаркам справу залатвіў, а ў 59-м яе крыху падправілі, але ўсё адно «сівухай» тхне. Скалечаныя гісторыя, літаратура, мова, правапіс. Так быць не павінна! Але ёсьць. Аднак калі ў гісторыі, літаратуры, нешта рэпрэсаванае ўжо ўдалося вярнуць, дык правапіс той жа да сёньня крыкма крычыць, просячы рэабілітацыі.

Мы адпрэчылі вульгарную наркомаўку, каб паскорыць дзяржаўную рэабілітацыю зьбэшчанага саўнаркамам. Давялося чакаць. Ажно нарэшце саўмін загадаў склікаць камісію... У рэдакцыі зноўку тэлефонны званок: а ці ведаеце вы, што другім пунктам саўмін загадвае да сканчэньня працы камісіі ўсім абавязкова карыстацца наркомаўкай. Вось табе й маеш! Выходзіць, што фонд «Бацькаўшчына», выдаткоўваючы на «Пагоню» ужо нават ня сотні тысяч, а мільёны рублёў, робіць ледзьве не падрыўную справу. Хочацца самога сябе нават не ўшчыкнуць, а ўкусіць: ці ня сплю, ці ня сьніцца мне ўсё гэта?

**Шаноўны спадар Бутрас!**

Адзін наш пісьменьнік-нябожчык пісаў, што нам Бог усім дагадзіў, адно начальства кепскае даў. Й так трывае да сёньня.

Пісалі нашыя да Гарбачова, спачатку пра мову, потым пра Чарнобыль. Пакуль ён там раздумваў, што адказаць, дык пазбыўся свайго прэзідэнцтва. Пісалі ў ЦК КПБ, пісалі да Папы Рымскага. Застаецца зьвярнуцца адно хіба да Спадара. Ня ведаю, праўда, што канкрэтна папрасіць. Шаноўны спадар Бутрас, забярыце ад нас нашае начальства! Альбо хіба прышліце блакітныя каскі. Ці, можа, будзе лепш, калі Спадар папросіць якога-небудзь князька з Бананавых выспаў, каб прытуліў, даў дазвол стварыць Беларускую Народную Рэспубліку, бо РБ, як і БССР — несапраўдная. Мы адпрацуем! Будзьма хоць бы абрываць з пальмаў какосы для таго рэклямаванага сьнікэрса.

Адказ папрашу даслаць лістоўна ў Новы Ёрк на адрас нашага прадстаўніцтва ў ААН. Мы, як гэта ня сьмешна гучыць, ёсьць сярод краін-заснавальнікаў гэтай шаноўнай арганізацыі. Зрэшты, можа, гэта таксама суцэльная фікцыя і аніякага прадстаўніцтва няма? Адно на паперы?

Ніхто ня думае пра Беларусь. Адзін толькі Ленін...

**М. С.**
**Жнівень-верасень, сёлета.**





# Псы вайны

**Грамадзянін РП, які хацеў бы апрануць чужы муньдзір, каб служыць у войску ў замежжы, легальна можа гэта ажыцьцявіць толькі ў польскім кантынгэньце ААН. Прыватны ўступ у чужое войска ёсьць злачынствам, з якімі польская Фэміда толькі пачынае змагацца.**

Міністэрства замежных справаў, Дэпартамэнт аховы дзяржавы й вайсковыя інфармацыйныя службы ня ведаюць, колькі польскіх грамадзян нелегальна служыць у чужых збройных фарміраваньнях.

— Трыццаць пяць прозьвішчаў мы ўжо ведаем, тээрэтычна ў «гульню» могуць уваходзіць яшчэ каля дваццаці асобаў,— гаворыць палкоўнік Уладзімір Посьпех з Галоўнай вайсковай пракуратуры, ня тоячы, што ў падобных справах заўжды цяжка бывае з доказамі. **У паказаньнях не сыходзяцца факты, даты, нават геаграфія.** Дагэтуль, аднак, не пацьвердзіліся зьвесткі аб масавым удзеле палякаў у Харвацкай Нацыянальнай Гвардыі, у складзе якой нават павінен быў паўстаць польскі легіён; аб удзеле палякаў у баях на тэрыторыі каўказкіх рэспублік; ані аб дзясятках землякоў, якія нібы са зброяй у руках загінулі ў былой Югаславіі. Дэпартамэнт аховы дзяржавы мае спраўджаныя дадзеныя толькі пра адзін такі выпадак: польскі дабраахвотнік пасьля ўступу ў харвацкую гвардыю быў забіты на другі дзень.

Асуджаныя на першым гучным працэсе вярбоўшчыкаў Крыштаф Копэць і Войцах Палачак распавядалі пра 17 трупаў у адной толькі Босьніі, стрэсуючы нашых дыплятаў у Загрэбе й Бэлградзе, да якіх зьвярталіся ў роспачы некаторыя сем'і. Часам даходзіць нават да трагікамічных выпадкаў. Шэф консульскага аддзелу польскага пасольства ў Осла мусіў выдаць «пасьведчаньне аб знаходжаньні пры жыцьці» аднаму чалавеку, нэкралёг на каторага надрукавала кракаўская прэса. Пад час таго, як ён павінен быў ваяваць ды загінуць дзесь у Босьніі — як напісалі ягоныя «таварышчы па зброі» — ён якраз зьбіраў у Нарвэгіі трускаўкі.

Францыя таксама ані разу афіцыйна не пацьвердзіла ўдзел палякаў у сваім Замежным Легіёне, хаця **французкае пасольства ў Варшаве ўсім ахвотным раздае ўлёткі з інфармацыяй аб магчымасьцях уступу ў Замежны Легіён.**

Некаторыя журналісты сцьвярджалі, што ў легіёне служаць «каля 1000 польскіх грамадзян», а летась на вярбоўныя пункты нібы зьвярнулася 2 тысячы палякаў.

Цікава, што адзін прадпрымальны чалавек, які даў у некалькі газэт абвестку аб тым, што разсылае зьвесткі аб магчымасьці ўступу ў Замежны Легіён з адрасамі вярбоўных пунктаў (гэта былі копіі ўлётак, атрыманых у французкім пасольстве), меў ажно 506 кліентаў. Прынамсі, чатыры з іх выкарысталі атрыманую інфармацыю, дабраліся да Абіджана, дзе зьвярнуліся на вярбоўны пункт. Адзін з іх быў прыняты, але не прыступіў да службы. Пракуратура зьвярнулася з абвінавачаньнем на яго ў суд авіявойскаў у Познані. Прадпрыймальны перасыльшчык, аднак, пазьбег пакараньня.

Пакуль застаецца цьмяным пытаньне са службай у Бундэсвэры прадстаўнікоў нямецкай меншасьці з польскай Сілезіі. Яны ўхіляюцца ад службы ў Войску Польскім. Маючы падвойнае грамадзянства, яны выяжджаюць у Нямеччыну, дзе, падобна, уступаюць на службу ў Бундэсвэр. Шмат хто з іх потым прысылае бацькам свае здымкі ў муньдзірах нямецкай арміі.

**Аднак сілезкія ўлады пярэчаць, што гэта немагчыма, бо «служба ў Бундэсвэры зьвязана з пастаяннай прапіскай на тэрыторыі ФРГ».**

Дырэктар аддзела грамадзянскіх справаў Апольскай ваяводзкай адміністрацыі, аднак, пацьвярджае той факт, што навабранцы-немцы не зьяўляюцца на камісію, і польскія ўлады … гэтым выпадку бязрадныя што-сь зрабіць. Калі хто хоча пазьбегчы войска, дык выяжджае ў Нямеччыну, каб перачакаць тэрмін чарговага вайсковага набору. Улады не рэагуюць на гэта, бо не … даюць канфліктаў з нямецкай меншасьцю.

У Галоўнай вайсковай пракуратуры гавораць, што факт вярбоўкі ў чужое войска цяжэй даказаць, чымсьці сам факт службы ў ім.

— Бо што такое вярбоўка? — задумваецца палкоўнік Посьпех.— Напрыклад, актывісты КПН (Канфэдэрацыя Незалежнай Польшчы.— перакладчык), якія летась расклеілі ў Кракаве плякаты «Маладыя палякі! Харватыя чакае вас. Зьвяртайцеся да нас», правялі ўсяго толькі «інфармацыйную акцыю» — як вырашыў суд першай інстанцыі, зьнімаючы з іх віну, ці гэта ўсё ж была вярбоўная акцыя, як сьцьвярджае пракурор?

Нават дасьведчаным вайсковым суддзям цяжка на гэта адказаць. Бо гэта цалкам новае поле дзейнасьці для праўнікаў, хаця яшчэ ў міжваенным часе за службу ў чужым войску каралі й пазбаўлялі польскага грамадзянства. **Так учынілі з 6 тысячамі дабраахвотнікаў, якія ўдзельнічалі ў грамадзянскай вайне ў Іспаніі.**

26 гадоў назад ПНР прадугледзела пакараньне за падобныя дзеяньні, а РП падпісала міжнародную канвэнцыю аб забароне рэкрутацыі наёмнікаў.

«Wprost».

**Пераклад з польскай мовы.**

**На гэты час польскімі вайсковымі судамі разгледжана 23 справы, якія датычаць службы ў Замежным Легіёне, 9 — удзелу ў вайне ў былой Югаславіі (7 з харвацкага боку, 2 — з сэрбскага), 1 — у апэрацыях амэрыканскай арміі. Пакараных няшмат. Адзін наёмнік з Замежнага Легіёну атрымаў паўгады турмы з адтэрмінаваньнем і 2 млн. злотых штрафу. На 2 гады турмы засуджаны харунжы, які ўцёк з Войска Польскага ў замежны Легіён, адкуль таксама дээртыраваў. Столькі ж дастаў «харват», які пасьля пяці месяцаў службы ў Загрэбскай нацыянальнай гвардыі вярнуўся дахаты ў Польшчу.**

**Савецкія людзі, выконваючы свой «інтэрнацыянальны» абавязак, ваююць у б. Югаславіі, Малдове, Каўказе, дзе яшчэ? Пра міжнародныя канвэнцыі аб супрацьдзеяньні вярбоўцы наёмнікаў ніхто, падобна, нічога ня чуў. Ці ёсьць сярод іх беларусы! Мабыць, павінны быць, бо мы былі самай савецкай нацыяй. Шкада хлопцаў. У французкім легіёне хоць добрыя грошы плоцяць, нездарма ж палякі гэтак туды імкнуцца. Ёсьць, дарэчы, зьвесткі аб тым, што і нашыя суайчыньнікі пачалі туды трапляць.**

**Іосіф БРОДЗКІ**

# Літоўскі дывэртысмэнт

Томасу Венцлова

**I. Пралог**

Вось каля мора сьціплая краіна.
Свой сьнег, аэрапорт і тэлефоны.
Свае жыды. І шэры асабняк
дыктатара. І постаць вяшчуна,
Айчыну параўнаўшага з каханкай,
па чым відаць ня так адметны густ,
як веды з геаграфіі — паўднёвы
тут па суботах езьдзяць да паўночных
і, брыдучы дахат зімой пад мухай,
часамі могуць заблукаць на Захад—
тэма для скэтча. Тут адлегласьці такія,
што жыць маглі бы хоць гэрмафрадыты.
Вясновы поўдзень. Лужыны. Аблокі.
Нязьлічаных касьцёлаў тлум на стрэхах
нязьлічаных касьцёлаў — чалавек
тут робіцца ахвярай таўкатні
альбо фігураю мясцовага барокка.

**II. Лейкілос, вуліца ў Вільні**

Тут нарадзіцца ў час няшпаркі,
дзе ў дворыках вісяць пярыны,
глядзець з-пад стрэхі, бачыць паркі,
крыжы двухтварай Кацярыны,
цурацца маці, чырвань боўтаць,
калі ў лярнэткі глянуць пані,
завулкам гэтта, вузкім, жоўтым,
піхаць двухколку з лахманамі,
накрыцца з галавою ў мроях
пра полек з дужымі грашыма,
пасьля на фронт пайсьці гэроем
і згінiць на Вісьле — за Айчыну,
Цара і Веру!— альбо пэйсы
сабе паабстрыгаўшы рана,
у Новы Сьвет адплыць і рэйсам
рыгаць у хвалі Акіяна...

**III. Кавярня «Нярынга»**

Час адыходзіць, … дзьверы кавярні ў Вільні
пад спадарожны лязгат відэльцаў, нажоў і талерак—
і прастора, хоць нападпітку, але неамыльна
глядзіць на мяне між патыліцай і каўнерам.
Над дахоўкамі стрэхаў нерухомы пунсовы круг,
згубіўшы нутро ці пустое ўлоньне,
і кадык завостр…, як вырваны з чужых рук,
а на месцы тва… толькі профіль, як на мэдальёне.
І жаданьня-прагі-капрызу пачуўшы гук,
падавальніца ў кофтачцы з дарагога бацiста
перабірае нагамі, толькі што зьнятымі з рук
мясцовага футбаліста.

**IV. Гэрб**

Забіўшы цмока, Сьвяты Юры
імчыць бяз дзіды скрозь віхуры
ад алегорый — толькі меч
і конь пры ім. З іх дапамогай
паскуду чорнаю дарогай
з мяжы літоўскай гоніць прэч.
Каго ж, меч сьціснуўшы ў далоні,
пасекчы прагне?! Сэнс Пагоні
за тарчай пыл дарожны скрыў.
Каго? Гяура? Зьлыдняў племя?
Сусьвет?!... Ну, калі так — ня ў цемя
Вялікі Вітаўт біты быў!

**V. «Сябру-філёзафу пра манію, мэлянхолію й польскі каўтун», альбо Трактат XVIII ст. з бібліятэкі унівэрсітэта ў Вільні**

Бяссоньніца. Жанчыны частка. Шкло
рэптылій сьлізкіх, што паўзуць на сьцюжу.
Шаленства дня праз мозг мой працякло
ў патыліцу — і там зрабіла лужу.
Ледзь варухніся — боль залье нутро.
Як быццам нехта ў ледзяную жыжу
макае сваё вострае пяро
і па складох выводзіць «не-на-ві-джу!»—
па пропісу, дзе толькі сьлед крывы
закругліны, і дзе жанчына ў крэмах,
як пальцы да вашывай галавы,
пускае ў вушы словы вечнай тэмы...
І ў поцемках ты голы і адзін,
як Задыяка знак сярод ільдзін.

**VI. Паланга**

Толькі мора на неба глядзіць і толькі яму ня страшна.
Чалавек з белай дзюны на сьвет пазірае.
Адкідвае галаву й пацягвае з пляшкі—
як былы кароль, які даў сябе выгнаць з Краю.
Дом зрабаваны. Атары й статкі пабралі.
Сына хавае пастух у цемрах пячоры.
А перад ім — толькі край зямлі й салёныя хвалі,
але веры замала, каб перайсьці гэта мора.

**VII. «Дамінінконай», касьцёл у Вільні**

Пакінь смурод і грукат меса—
завулкам ціхім час ступаць
між дворыкаў, глухіх і цесных;
зайдзі ў касьцёл, на лаўку сядзь
і там, ад пылу залатога
калі падступіць горлам плач,
ўдыхні сьвятло ад Пана Бога
і ціха выдыхні: — Прабач.

**1971 год.**

**Пераклаў Алесь ЧОБАТ.**

